# „FALL BARBAROSSA“

22 чэрвеня спаўняецца 18 год з дня, калі над Беласточчынай другі раз за кароткі перыяд загулі нямецкія бамбавозы, другі раз ускалыхнулася гэтая зямля ад выбухаў бомб. У адрозненне ад 1939 года цяпер Беласточчына была першай ахвярай палітыкі «Drang nach Osten». Дарэчы будзе прыпомніць яе, бо не зваліся яшчэ яе паслядоўнікі.

Гітлер у «Mein Kampf» гаварыў: «Мы выразна паказваем пальцам на тэрыторыі, якія ляжаць на Усходзе. Мы пераходзім да палітыкі заваёў новых земляў у Еўропе. Калі маем жадаць новых тэрыторый у Еўропе, то гэта можна дасягнуць толькі коштам Расіі:... новая імперыя павінна рушыць наперад шляхам даўнейшых рыцарскіх ордэнаў. Гэтая гігантычная ўсходняя дзяржава немінуча асуджана на пагібель. Да гэтага даспелі ўсе прадпасылкі. Канец бальшавіцкага панавання ў Расіі будзе адначасова канцом Расіі як дзяржавы».

Гэты асноўны курс палітыкі і стратэгіі фашысцкай Германіі праводзіўся паслядоўна праз усе гады гітлераўскага панавання.

Вось план Гітлера, які ён накрэсліў на нарадзе галоўнакамандуючых у Оберзальцбургу 22 жніўня 1939 г.: «Польшча будзе ачышчана ад свайго народа і засеяна немцамі. Мой дагавор з Польшчай меў на мэце толькі выйграць час. І ў канцы канцоў з Расіяй, панове, здарыцца тое самае, што і з Польшчай. Мы разаб'ем Савецкі Саюз. На зямлі наступіць германскае панаванне».

Адным з важнейшых мерапрыемстваў Гітлера да нападу на СССР з'явілася стварэнне спрыяючага ваенна - палітычнага і стратэгічнага становішча. Таму ён разглядаў захоп еўрапейскіх дзяржаў як неабходныя ўмовы для вядзення вайны супроць СССР. Гітлер праводзіў шырокую кампанію вярбоўкі саюзнікаў. Яна вялася шляхам інтрыг, шантажа, задобрывання, пагроз і т. п.

Перад пачаткам вайны Германіі супроць СССР амаль усе еўрапейскія дзяржавы былі або падняволены гітлераўцамі, або ўцягнуты ў антысавецкі блок, або займалі дружалюбны ў адносінах да Германіі нейтралітэт.

У час нападзення на Савецкі Саюз тэрыторыя Германіі з раёнамі, якія былі пад яе ўладай, складала амаль 900 тыс. кв. км з насельніцтвам звыш 117 млн. чалавек.

**(Працяг на стар. 3).**



**Агульны від XXVIII-га Міжнароднага Познанскага кірмашу.**

Фота — ЦАФ

# 5 КАНТЫНЕНТАЎ у ПОЗНАНІ

(Ад нашага карэспандэнта)

**У Познані адбываецца XXVIII Міжнародны Познанскі кірмаш. Сёлета ўпершыню ў кірмашы ўдзельнічаюць прадстаўнікі пяці кантынентаў. Аўстралія, хаця ўжо не адзін раз удзельнічала ў бранжавых кірмашах, цяпер прымае ўдзел як дзяржава. У параўнанні з мінулым годам колькасць дзяржаўных сцягоў на кірмашы павялічылася на 9, і сёлета на тэрыторыі кірмашу развяваюцца ўжо 43 дзяржаўныя сцягі.**

**Замежныя ўдзельнікі займаюць сёння дакладна 2/3 тэрыторыі кірмашу. У мінулым годзе яны займалі толькі 62 прац.**

**А варта ўспомніць, што на ўсіх міжнародных кірмашах экспедыцыя той краіны (дзе адбываецца кірмаш) шмат большая ад замежных краін.**

**Таму з гэтага пункту гледжання Познанскі кірмаш не мае сабе роўнага. Зацікаўленне Познанскімі кірмашамі з году ў год узрастае ва ўсім свеце. Аб гэтым сведчыць удзел у кірмашы такіх краін, як Канада, Ірак, Судан, Марока, Індыя, Бразілія і шмат іншых краін Лацінскай Амерыкі.**

Чым адрозніваецца сёлетні кірмаш ад мінулых?

**Па-першае,** мае ён багацейшы асартымент машын і прамысловага абсталявання.

**Па-другое,** сярод машын пераважаюць аўтаматы: не патрабуючыя рабочых featрознага тыпу станкі, электрычныя наладкі вялікіх чыгуначных вузлоў і розныя агрэгаты, пры якіх чалавечая праца абмежавана да мінімума.

**Па-трэцяе,** у супрацьлегласць з мінулымі гадамі ўсе машыны, нават для самых брудных работ, адзначаюцца цудоўнымі формамі і эстэтычным выкананнем.

Адным словам, кірмаш гэтага года адлюстроўвае імклівы тэхнічны прагрэс ва ўсіх галінах прамысловасці.

Беручы пад увагу тэхнічны характар XXVIII Міжнароднага Познанскага кірмашу, звычайнаму чалавеку ён можа паказацца малацікавым.

Аднойчы на кірмашы мне давялося пачуць размову двух пань, з якіх адна гаварыла:

— Замест таго, каб аглядаць гэтыя нецікавыя машыны, ідзем лепш у бразілійскі павільён, там можна хоць добрай кавы напіцца.

На шчасце, большасць прыбываючых на кірмаш — гэта спецыялісты розных галін прамысловасці.

У якіх жа павільёнах тэхнічны прагрэс найбольш відавочны?

З прыемнасцю трэба сцвердзіць, што мноства польскіх экспанатаў стаіць на найвышэйшым тэхнічным узроўні. Маю тут на ўвазе аўтаматычныя металарэжучыя станкі, а таксама прэцызыйныя, якія могуць служыць да вырабу гадзіннікаў, вугальныя камбайны і транспарцёры, як і ўсё фабрычнае абсталяванне цукроўняў і цэментоўняў, якія мы прадукуем на экспарт. Замежных гандлёвых агентаў, несумненна, цікавяць таксама польскія гандлёвыя караблі. Тады, калі, напрыклад, ФРГ звальняе работнікаў верфяў з браку заказаў, польскія верфі ўжо выканалі прадукцыйны план на цэлыя 6 гадоў.

Сярод замежных удзельнікаў кірмашу багаццем экспазіцыі адрозніваецца павільён Савецкага Саюза. У мінулым годзе аглядаў я ў савецкім павільёне мадэлі спадарожнікаў нумар 1 і 2. Цяпер прыбавіўся да гэтага камплету спадарожнік нумар 3. Той самы, які выклікаў агульную зацікаўленасць, на выстаўцы ў Бруселі, а таксама на кірмашах у Ліпску і Будапешце. Пры ўваходзе ў савецкі павільён стаяць навейшыя аўтамашыны «Чайка» і «ЗІЛ-111». Тэхнічнай навінкай з'яўляецца грузавая аўтамашына «ЗІЛ-157», калёсы якой не патрабуюць камераў. І аўтамашына «Масквіч» — камбінаваны. Аднак, найбольш цешаць савецкія вырабы хімічнай прамысловасці, пластмасы і штучнае валакно. Відаць, Савецкі Саюз у гэтай галіне прамысловасці зрабіў грамадны крок наперад.

Тэхнічным прагрэсам здзіўляе прысутных і Кітайская Народная Рэспубліка. Памятаю, чатыры гады назад гэтая краіна прадстаўляла на кірмашы галоўным чынам мінеральныя залежы медзі, цынку, волава. Агульную сенсацыю тады рабіў выпрадукаваны першы раз у Кітаі матацыкл. Сёння грамадны павільён КНР перагружаны кітайскімі металарэжучымі станкамі, прыгожымі радыёпрыёмнікамі, дакладнымі прыборамі — апаратамі Рэнтгена. Пасярод залы стаяць два трактары, з якіх большы мае тыповую ўсходнюю назву — «Стальны смок». Як чатыры гады таму назад наведвальнікі кірмашу захапляліся кітайскім матацыклам, так цяпер здзіўляе іх выпрадукаваная ўпершыню ў Кітаі кобальтавая бомба. Аглядаючы кітайскі павільён, чалавек умацоўвае сваё перакананне, што лозунг «вялікі скок шасцісотмільённага народа» не з'яўляецца проста фразай.

З іншых экспазіцый адрозніваюцца павільёны ГДР (штучнае тварыва), Чэхаславакіі (прыгожыя крышталы і аўтамашыны), Італіі (зразумела, аўтамашыны маркі «Ф'ят») і ФРГ. Апошні адлюстроўвае карціну хуткай разбудовы і рэканструкцыі капіталістычных канцэрнаў Крупа, Цісана, Манесмана і інш.

Што ж яшчэ, апрача ўжо названых экспанатаў і павільёнаў, узбуджае зацікаўленасць наведвальнікаў і гандлёвых агентаў? Несумненна, матацыкл «Аса», які нарадзіўся ў вялікіх болях, але затое на кірмашы прадстаўлены вялікай колькасцю. Дзякуючы вялікім памерам кол і дасканалай амартызацыі, гэты матацыкл можа смела канкурыраваць за граніцай з іншымі вядомымі фірмамі.

Міжнародную канкурэнцыю вытрымае, напэўна, таксама польскі радыёпрыёмнік, пабудаваны на транзыстарах маркі «Эльтра». Гэты радыёпрыёмнік не большы за звычайную папяросніцу, а многа меншы і прыгажэйшы, чым падобны радыёпрыёмнік, прадстаўлены на кірмашы вядомай фірмай «Філіпс». Ва ўнутраным продажы гэты прыёмнік будзе каштаваць 1800 зл.

Электрыфікацыя чыгункі патрабуе разбудовы фабрык, прадукуючых электрычныя паравозы. На сёлетнім кірмашы замест звычайнага паравоза польская прамысловасць выстаўляе цэлы электрычны трохчлен. У прадукцыі трохчленаў маюць цяпер першынство шведы, але польскі экспанат не ўступае ім ні на крок. Электрычны цягнік сапраўды цудоўны, а што галоўнае, выгадны.

Познанскі кірмаш не арганізуецца для таго, каб толькі захапляцца экспанатамі. З'яўляюцца яны імпрэзай, рашуча гандлёвай. Аб іх значэнні сведчыць і той факт, што ў першыя дні кірмашу ў Познані знаходзілася 250 замежных гандлёвых агентаў. Прыехалі яны для таго, каб прадаць і купіць. Жадаем ім поспеху!

**Уладзімір ЛАЗІНСКІ**

# БУДЗЕМ ГАТОВЫЯ

З самых старажытных часоў агонь робіць чалавеку бясцэнную паслугу. Без агню нельга ўявіць жыцця на Зямлі, развіцця тэхнікі. Агонь, падпарадкаваны волі чалавека, з'яўляецца яго верным і бясцэнным слугою.

Але бяда, калі агонь вырвецца з-пад кантролю чалавека. Тады ён, як люты звер, вырваўшыся з клеткі, робіць спустошэнні направа і налева. Гэты агонь называецца ў нас «чырвоным пеўнем», і яму я хачу прысвяціць некалькі радкоў.

Вясна ў гэтым годзе прышла вельмі рана. Прышла з сушай і моцнымі вятрамі. Часта ноччу відаць на даляглядзе чырвоныя зарывы пажараў. Газеты прыносяць трывожныя весткі аб пажарах і матэрыяльных шкодах, прычыненых агнём. Асабліва страшныя спустошэнні робяць пажары на вёсках. Густыя забудаванні, саламяныя стрэхі, слабая супроцьпажарная ахова, — усё гэта стварае спрыяльныя ўмовы для агню, і не раз вясковы здабытак дзядоў і прадзядоў паглынае полымя агню на працягу кароткага часу. Гінуць будынкі, жывёла, а нават і людзі. «Чырвоны певень» — вялікі вораг вёскі, і селянін жыве пад пастаянным страхам перад гэтай грознай стыхіяй.

Але кожны вораг не бывае страшны, калі існуюць магчымасці абароны перад ім. «Чырвоны певень» перастане быць страшны тады, калі ўсе будынкі на вёсцы будуць будавацца з вогнетрывалых матэрыялаў, але пакуль гэта настане, пройдзе яшчэ многа год. Як жа сёння бараніцца супроць гэтага ворага?

Пры актыўнай дапамозе ўрада ў нашай краіне створана густая сетка дабраахвотных пажарных дружын. Створаны пажарныя каманды (ОСП). Сённяшняя дабраахвотная каманда супроцьпажарнай аховы ўзброена навейшым супроцьпажарным інвентаром, як мотапомпы і вужы да іх, а некаторыя маюць і аўтамашыны.

Але найлепшая пажарная каманда не з'яўляецца нейкім палыкачам полымя. На сённяшні дзень асноўным сродкам абароны на вёсцы з'яўляецца вада, і ад месца знаходжання яе ад агню залежыць поспех абароны. У кожнай вёсцы ёсць многа сажалак, лугоў і розных паглыбленняў, якія пасля зімы напаўняюцца вадою. Але гэтыя вадаёмы занядбаныя, да іх трудна даехаць. Да ўжытку яны непрыгодныя.

У інтарэсе саміх жыхароў на тэрыторыі вёсак, дзе знаходзяцца гэтыя вадаёмы, трэба стварыць добры даезд да іх. У некаторых месцах трэба паглыбіць гэтыя вадаёмы і аплясці, што не дазволіць мулу забрудзіць ваду. Найменшы вадаём велічынёю ў якіх 1000 — 2000 квадратных метраў дасць вады на 2 — 3 хвіліны для мотапомпы М-800. А 2 — 3 хвіліны інтэнсіўнай абароны — многа значыць.

Не трэба грэбаваць і такімі прыладамі індывідуальнай абароны, як басак і мяцёлка. У выпадках, калі гарыць сажа, добрай мяцёлкай, намочанай у вадзе, можна дастацца аж да коміна і гасіць іскры, падаючыя на страху.

Часта на вёсцы прыходзіцца чуць: «Курыў дзед, курыў бацька, і нічога не сталася, не падсадзі агню з намерам, то і не загарыцца». Але часта прычына пажару застаецца невядомай. А гэтыя невядомыя прычыны і вынікаюць у пераважнай меры з прычыны неасцярожнасці.

Нельга раскладаць вялікіх вогнішчаў у печах, калі на двары моцны вецер, бо моцны вецер стварае вялікую цягу, і іскра, не паспеўшы пагаснуць у коміне, вылятае на верх. Не прыходзіцца прыпамінаць, што комін павінен быць ачышчаны.

Асобую ўвагу трэба звяртаць на дзяцей, не пакідаць іх без апекі. Калі ж дзеці пакінуты адны ў хаце, то запалкі трэба так схаваць, каб дзеці не знайшлі, а агонь у печах трэба затушыць. Дзеці ж надта любяць гуляць з агнём і вельмі часта становяцца прычынай пажараў, а часта ў агні і самі гінуць.

Загаты, якія лёгка запальваюцца, на веснавы перыяд трэба вывозіць далей ад забудаванняў. Нельга самому рабіць электрычныя інсталяцыі. Кепская інсталяцыя таксама часта бывае прычынаю пажару. Трэба дамагацца ад павятовай Каманды стражы пажарнай заінсталявання грамаадводаў. Гаспадар толькі плаціць 40 зл, а рэшту пакрывае ПЗУ.

Добрай натуральнай перашкодай для агню з'яўляюцца дрэвы, растучыя ля забудаванняў. Мяжа, густа засаджаная бярозамі ці ліпамі, стварае сцяну, цяжкую да прабіцця полымям і іскрамі.

Пажар не будзе для нас вельмі страшным, калі супроцьпажарная абарона будзе стаяць у нас на належным узроўні. Небяспека пажараў значна спадзе, калі мы застасуем у сябе неабходныя сродкі асцярожнасці. Не забывайма пра гэта! Хай тыя сотні мільёнаў, з году ў год выплачваемыя ПЗУ, будуць накіраваны на пабудову іншых карысных аб'ектаў, як школы, святліцы і г. д.

**К. ПЯТЭЛЬСКІ**

# У ВОЛЬЦЫ ТЭРАХОЎСКАЙ

Нядаўна ўзяў я з сабою некалькі п'ес, зборнікаў песень і пайшоў у бок шумлівага лесу, за якім шырокім лукам стаяла невялічкая беларуская вёсачка — Волька Тэрахоўская.

Калі я зайшоў у вёску і сказаў солтысу, Алесі Назарук, з чым я да іх завітаў, вельмі яна ўзрадавалася.

— Добра, што вы прыйшлі да нас, — сказала яна душэўна. — Мы ўжо самі хацелі звяртацца ў павет, каб хтось прыехаў да нас залажыць нейкую арганізацыю. Пагутарым сёння з моладдзю. Думаю, што будзе многа жадаючых, — сказала А. Назарук.

Сонейка ўжо схавалася за небасхілам, калі дзяўчаты пачалі сходзіцца ў памяшканне, дзе меў адбыцца сход.

Праз некалькі гадзін сядзеў я з маладымі вясёлымі дзяўчатамі і жартаўлівымі юнакамі. Гутарылі мы аб усіх справах. Аб тым, што святліцы няма, а магазін па кааператыве стаіць пусты і нішчыцца, што моладзь не мае чым заняцца ў вольны час, што варта было б арганізаваць гурток БГКТ, а пры ім мастацкі калектыў.

Група ўдзельнікаў мастацкага калектыву з Волькі - Тэрахоўскай.

І тут жа, на гэтым сходзе, стварыўся мастацкі калектыў, у які ўвайшло 15 асоб. На пачатак ён пастанавіў падрыхтаваць эстрадны канцэрт, з якім выступіць у канцы чэрвеня ў сваёй вёсцы, а пасля наведае навакольныя вёскі. Будуць спяваць Валя Петышук і Марыя Якубіч. Выступіць таксама хор і танцавальная група.

А цяпер хачу сказаць пару слоў аб членах гуртка БГКТ і яго старшыні Галі Зінчук.

Галя Зінчук мае 18 год. Яна ніколі не сумуе. Яе твар пакрывае заўсёды вясёлая ўсмешка.

Душой калектыву з'яўляюцца Валя Петышук і Марыся Якубіч з Хлявішч. Хто ж не чуў іх прыгожых галасоў? Іх ведаюць не толькі жыхары Волькі, але і ўсе навакольныя вёскі. Калі пачуецца голас гэтых маладзенькіх дзяўчынак, душа напаўняецца вясёлаю думкай, хацелася б слухаць і слухаць родныя мелодыі ў іх выкананні.

Вельмі актыўнымі членамі з'яўляюцца таксама і іншыя ўдзельнікі, як: Валодзя Янушэвіч, Іра Бароўская, Коля Назарук, Анэля Назарук і шмат іншых.

У канцы я хацеў бы сардэчна падзякаваць усім удзельнікам мастацкага калектыву з Волькі Тэрахоўскай, а таксама солтысу Алесі Назарук за тое, што яны памаглі мне абудзіць у моладзі пачуццё да сваёй культуры, да роднай, беларускай мовы.

**УЛ. СІДАРУК**
Інструктар БГКТ

Фота — аўтара.

# У АЛЬХОЎЦЫ не спяць

Калі людзі ведаюць, чаго ім трэба, а пры гэтым маюць шчырую ахвоту да працы, могуць зрабіць вельмі многа.

Нягледзячы на дождж, мы с сакратаром грамадскай Рады Нарадовай грам. Галабурай аб'язджаем аколіцу. Пад колам веласіпедаў прыемна шуршыць пясок новай дарогі. Вялікія палеткі жыта змяняюцца палямі бульбы, і здаецца, што ўсе гэтыя палі з прадуманым планам пасеваў належаць аднаму гаспадару, ды толькі межы паміж асобнымі загонамі дароднага жыта прымушаюць меркаваць, што тут гаспадараць паасобку. Сакратар Прэзідыума, як сапраўдны гаспадар, з гонарам паказвае сваю гаспадарку.

А ганарыцца ёсць чым. У Альхоўцы (Гайнаўскі павет) умеюць гаспадарыць.

Пачалі ў Альхоўцы з дарог, і гэта невыпадкова. У склад грамадскай Рады ўваходзіць 7 вёсак. Жывучыя каля самай граніцы сяляне не маюць ніякіх сродкаў сувязі з паветам. Каб дабрацца да Гайнаўкі, трэба страціць два-тры дні, таму што да бліжэйшай чыгуначнай станцыі з вёскі Масева І каля 17 кіламетраў. Каб ліквідаваць гэтыя цяжкасці, было вырашана пабудаваць грамадскім чынам дарогу да Нараўкі, з мэтай, каб Альхоўка атрымала аўтобус ПКС. У Альхоўцы не кідаюць словы на вецер. Пачынаючы з мінулага года, на дарозе пачаліся работы. Усе сяляне з навакольных вёсак, як адзін, на чале з працаўнікамі Рады нарадовай вышлі рэалізаваць свае абавязацельствы. Толькі ад сакавіка месяца г. г. было пабудавана грамадскім чынам каля 1800 метраў дарогі, на суму 160 тыс. злотых. На вышыні аказаўся і Аддзел камунікацыі ў Гайнаўцы, які на просьбу ГРН з Альхоўкі даў сялянам трактар.

Пры ўсеагульнай падтрымцы сяляне Альхоўкі і аколіц пабудавалі свой адрэзак дарогі і, здавалася б, ужо яны дасягнулі сваёй мэты і павінны атрымаць аўтобус. Але не тут было.

Прэзідыум грамадскай Рады нарадовай у Нараўцы падняў падобныя абавязацельствы пабудаваць дарогу на сваім адрэзку. Але ў Нараўцы ўмеюць толькі гаварыць. Хоць іх адрэзак дарогі больш чым на палову меншы ад адрэзка Альхоўкі, на ім зроблена столькі, бы кот наплакаў. Мне здаецца, што ГРН-у ў Нараўцы павінна быць сорамна, і хочацца думаць, што яны ў бліжэйшы час выканаюць свае абавязацельствы, а Альхоўка атрымае аўтобус.

У Альхоўцы не задаволіліся дасягнутым. Там будуць працягваць пабудову дарогі з Альхоўкі да Масева І і ўжо маюць поспехі. Усе сем вёсак, якія належаць да ГРН у Альхоўцы, працуюць з запалам.

У апошні час былі прыняты абавязацельствы меліяраваць сенажаці і выкапаць грамадскім чынам роў працягласцю 3.500 метраў. Ужо пракапана больш 1000 метраў.

Сяляне працуюць з ахвотай, але знаходзяцца людзі, якія кідаюць ім калоды пад ногі.

Балючая справа Альхоўкі — гэта школа.

Яшчэ ў 1949 г. там прыступілі грамадскім чынам да пабудовы школы. Нягледзячы на тое, што ўсе не шкадавалі сіл і працы (ужо кожны селянін працаваў па аднаму дню і калі будзе трэба, дапамогуць ізноў), але мінула ўжо 10 год, а школа яшчэ незакончана. Ды і будуюць яе не па-чалавечы. Па некаль-

(Працяг на стар. 5)

Жвіроўня «Betesci» ля Дзернякова.

Фота — М. Баравік

«Напісанага пяром, не вырубіш тапаром» — тым больш друкаванага.

# Як словы перайшлі на паперу?

**Навука калісьці каштавала вялікіх грошай. І гэта таму, што кніжкі былі дарагія. А былі яны дарагія таму, што было іх нямнога. Яны пісаліся рукамі на пергаменце (Пергамент — спецыяльна выпраўленая шкура звяроў).**

**Перапісваннем кніг займаліся манахі ў манастырах. Часам на перапісанне адной кнігі спатрэбілася многа год працы.**

**Ужо ў сярэднія вякі студэнты карысталіся пэўнага тыпу друкаванымі кнігамі. Быў гэта спосаб друку, які вынайшлі кітайцы каля 600 года новай эры. Заключаўся ў тым, што найперш на драўлянай тоўстай дошцы літара па літары вырэзвалася цэлая старонка з кнігі. Потым дошка змазвалася друкарскай фарбай і ўсё гэта адбівалася на паперы. Такую драўляную пячаць можна было адбіваць больш разоў, таму кніжкі, «друкованыя» такім чынам, былі таннейшымі.**

**Вялікім пераломам у галіне прадукцыі кніг была вынаходка немца Гутэнберга (каля 1400—1468 г. г.). Ён увёў рухомыя літары, якія рабіліся з металу. (Такія літары ўжываюцца ў друкарнях і зараз).**

**З рухомых літар складаўся тэкст у вершы, склад устаўляўся ў формы. Формы са складам пацягваліся друкарскай фарбай. На формы клаўся аркуш паперы і пры дапамозе друкарскага станкэ адціскалася старонка.**

**Калі ўжо выдрукоўвалася адпаведная колькасць экземпляраў, склад разбіраўся, а літары з металу служылі да складання іншага тэксту.**

**Літары, зробленыя з металу, былі трывалымі і імі можна было карыстацца доўгі час.**

**Вынаходка Гутэнберга аказалася вельмі практычнай, таму хутка знайшла шырокае прымяненне.**

**У канцы XV ст. было ўжо 250 друкарань у розных еўрапейскіх краінах. Кніжка перастала быць дарагой рэдкасцю.**

**Вынаходка друку значна садзейнічала развіццю асветы і культуры. З цягам часу, калі ўдасканалілася і вытворчасць паперы і друкарсія машыны, друкаванае слова здабыло сабе велізарную папулярнасць і было адным з важнейшых дасягненняў чалавецтва.**

**Выдатным беларускім друкаром, як ведаеце, быў Георгі Скарына. Быў ён не толькі першым беларускім друкаром, але адным з першых у Еўропе.**

# ПРОЗВІШЧЫ

**АДКУЛЬ ЯНЫ ЎЗЯЛІСЯ Ў НАС, ЯКІЯ БЫВАЮЦЬ — ХОЧАМ ГЭТА ВЕДАЦЬ — ЧЫТАЙ НІЖЭЙ. НЕ ПАШКАДУЕШ, ШТО ПРАЧЫТАЎ.**

У мінулым годзе мы стараліся паінфармаваць нашых чытачоў аб уласных імёнах людзей, а таксама мянушках і іх паўставанні. У гэтым артыкуле аўтар ставіць перад сабой задачу расказаць аб паўставанні прозвішчаў, а таксама і мянушак, якія перайшлі ў прозвішчы сталыя.

Паўставанне прозвішчаў на працягу вякоў было выклікана жыццёвай неабходнасцю. Сёння мы на нашым еўрапейскім кантыненце не сустрэнем ніводнага чалавека, які б не меў свайго ўласнага імені і свайго прозвішча, якія і адрозніваюць яго ад іншага чалавека, блізкага ці далёкага, суседа ад свайго брата, урэшце ад любога грамадзяніна той дзяржавы, у якой ён пражывае. Вось дзеля адрознення аднаго чалавека ад другога служаць не толькі яго вонкавыя фізічныя прыметы і псіхічныя асаблівасці, але, апрача імені, перад усім прозвішча, якое звязана з цэлай сям'ёй. Але дзеля бліжэйшага акрэслення той ці іншай асобы некаторыя народы, як, напрыклад, рускі, беларускі, украінскі, польскі, лічаць неабходным дадаваць яшчэ адну асабістую бліжэйшую рыску — імя бацькі (або Ян Шымонскі, сын Андрэя (па-польску).

З уласнымі імёнамі справа прасцейшая. Яны ў асноўным, пасля ўвядзення хрысціянства, бяруцца духавенствам з каляндара і часта без волі і жадання бацькоў надаюцца навародкам. А таму часта можам сустрэць дзіўныя і сваёй этымалогіяй незразумелыя простаму чалавеку імёны, як, напрыклад, Парафіры, Панкрацы, Куныкунда, Зузанна, Таіса і гд. Прозвішчы за малымі выключэннямі нашы, свойскія і зразумелыя кожнаму, бо яны ўтварыліся на месцы самім народам, або феадаламі і чыноўнікамі. Не адзін можа з нас думае, што прозвішчы, якія мы сёння сустракаем сярод народа, «бяруць свой пачатак ад Адама і Евы», а прынамсі ад часоў скарынінскіх. Такая думка была б не зусім правільнай. Як паказваюць гістарычныя і этнаграфічныя дадзеныя, найраней прозвішчы атрымалі багатыя слаі грамадства: магнаты-феадалы, шляхта - рыцарства і заможныя мяшчане - купцы, бо ім дзеля шырэйшага кантакту са светам неабходна было мець, апрача імя, яшчэ другую прымету — прозвішча, якое нават выпісвалася ў асабістым дакуменце, калі даная асоба па той ці іншай патрэбе выязджала ў вялікі горад ці за граніцу, ці вяла дзелавую перапіску з установамі або асобамі.

Працэс прывіцця прозвішчаў шырокай сялянскай масе і гарадской беднаце і рамеснікам адбываўся вельмі позна. Сяляне ў асноўным пачалі атрымліваць нязменныя прозвішчы толькі пасля знясення паншчыны - прыгону (1861 г.) і ў тую пору, калі пачалі праводзіцца перапісы насельніцтва і валасныя спісы, а таксама запісванне ў метрычныя кнігі нованароджанага.

Раней, практычна, селянін не адчуваў вялікай патрэбы мець сталае прозвішча, яго роля ў свеце і ў грамадстве была зведзена да ролі цяглай жывёлы, клічка якой была вядомай і патрэбнай толькі гаспадару. Гэтага чалавека — жывёліну — Сымона ці Панаса і без сталага прозвішча ведалі ўсе ў вёсцы, ведалі яго і панскі аканом, ці цівун. Усе яго клікалі па імені, а, калі яшчэ меў ён якісь асабістыя характэрныя прыметы фізічныя, ці псіхічныя, то да імя давалася асабістая мянушка, якая адрознівала яго ад іншых Сымонаў ці Панасаў у гэтай вёсцы, напрыклад, Панас Руды, Сымон Кульгавы, Вінцук Хлус, Ганулля Сакатуха і г. д.

Такім чынам, прозвішча назаўсёды замацоўвалася за кожным чалавекам у нашай краіне на працягу XIX стагоддзя ў сувязі з патрэбай вядзення дакладнай эвідэнцыі насельніцтва ў мэтах ваеннай службы і інш.

І вось у гэты перыяд, асабліва вясковае насельніцтва, пагалоўна атрымлівае сталае прозвішча, звязанае з членамі ўсяе данае сям'і.

Прысвойванне сталых прозвішчаў адбывалася даволі проста. Тыя сем'і, якія ўжо раней мелі накінутае вяскоўцамі — суседзямі прозвішча — мянушку ад характэрных прыметаў іхняга дзеда, ці бацькі, і захавалі гэтае прозвішча сталым для ўсей сям'і, упісаным у дваровыя, валасныя кнігі, а таксама і ў царкоўныя. Многія прозвішчы былі накінуты сем'ям панамі чыноўнікамі, валаснымі і павятовымі, і створаны на пачаканні суседзямі і самімі зацікаўленымі.

Напрыклад, пры перапісе, ці пры валаснай рэгістрацыі ставілася пытанне: як зваць? Адказ — Рыгор. А прозвішча? На гэтае пытанне Рыгор або, пацікаючы плячыма, адказваў: «не ведаю», або моўчкі мяў каслявымі рукамі шапку, ды азіраўся на суседзяў, вачыма просячы выручкі ў цяжкім становішчы. У такіх сітуацыях радзіліся прозвішчы. Калі ён жыў на канцы вёскі, то мог атрымаць прозвішча Канцавы, калі недалёка ад векавога дуба — то Паддубны, калі ж меў светла - русыя вусы, то атрымаў прозвішча — Белавус, Лысы, Рудок, Лясун і г. д. У сялян часткова, а перад усім у гарадской беднаты і рамеснікаў прозвішчы атрымліваліся ад спецыяльнасці — фаху, які меў даны чалавек напрыкл., Шавец, Шаўчук, Сталяр, Сталярчык, Кравец, Краўчук, Каваль Кавальчук.

Таксама атрымліваліся прозвішчы і ад тапанімічных назваў, напрык., Зарэчны, Падгорны, Азерскі, Задарожны...

(Заканчэнне ў наступным нумары).

# „Дзяўчыны — прыгажуні"

Ужо некалькі год працуюць кітайскія будаўнікі, што пракладваюць Баатоу - Ляньчжоўскую чыгунку. Гэтая магістраль злучыць Унутраную Манголію з правінцыяй Ганьсу ў Кітаі. Чыгунка тры разы перасякае бурную рэчку Хуанхэ, ідзе праз горы Алашань, пясчаную пустыню Тэнгры.

Пустыня Тэнгры — другая па велічыні ў Кітаі. Нездарма мясцовыя жыхары называюць яе «Пясчаны тыгр». Працаваць тут, асабліва летам, вельмі цяжка: днём пясок робіцца такім гарачым, што нават праз спецыяльны абутак апякае рабочым ногі; а ноччу — мароз такі, што трэба хавацца ў кажухі. Ды самае страшнае не мароз і не жар. Вясной і летам разгульваюцца ў пустыні пясчаныя вятры. Яны засыпаюць палаткі рабочых, здуваюць толькі што зроблены чыгуначны насып. Мноства ўстаўленых шчытоў толькі кароткі час могуць абараняць дарогу ад пяскоў.

Трэба было знайсці расліны, якія маглі б звязаць, змацаваць сыпучыя пяскі і не патрабавалі б многа вільгаці.

Заданне гэтае ўзяў на сябе Інстытут лесу і глебы, Пасля доўгіх пошукаў на месцы вучоныя адправіліся ўглыб пустыні. Туды, дзе, як расказвалі мясцовыя жыхары, разросся лес з дзіўнага пустыннага дрэва «соса» «дзяўчыны - прыгажуні», як яны называлі дрэва.

І вось на дзесяты дзень свайго падарожжа вучоныя ўбачылі на пясчаных выдмах кусты. Узялі пробу глебы. Толькі на глыбіні 10 метраў у пяску знайшлі крыху вільгаці. Але гэтага было даволі для дрэў «дзяўчын - прыгажунь». Яны змаглі перамагчы пясок.

Ды тут узнікла новае пытанне: як перанесці гэтую расліну да чыгункі? Выкопваць дрэвы? Ад гэтага трэба было адказацца адразу: карэнні «дзяўчыны - прыгажуні» цягнуцца на многа метраў углыб, і трыццаць чалавек за дзень маглі выкапаць якіх 20 дрэў. А для абароны чыгункі патрабавалася не адна тысяча.

Давялося чакаць да кастрычніка, калі паспее насенне дрэў. Вясной 1957 г. на 30 гектарах пасеяна «дзяўчын - прыгажунь». Пройдзе восем год, і зялёны бар'ер шырынёй у два і даўжынёй у 41 кіламетр надзейна будзе абараняць чыгунку ад нападаў «Пясчанага тыгра».

Толькі для закаханых

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мне 29 год. Ужо 7 гадоў я замужам і маю двое дзяцей. І хоць дзеці ўносяць у маё жыццё многа радасці, я не магу лічыць сябе шчаслівай.

Нельга сказаць, каб муж мой быў вельмі прыгожы, або здольны. Але ў жанчын мае вялікі поспех. А мне гэта, як нажом па сэрцы. Ды і спрэчкі ў нас узнікаюць амаль заўсёды з-за гэтага.

Аднойчы муж доўга не вяртаўся з працы. Я не вытрымала і пабегла да мужавай сястры, каб параіцца, што рабіць. У яе побач з маім мужам на тапчане, вясёлая, расчырванеўшаяся, з бліскучымі вачыма, сядзела незнаёмая мне жанчына. Доўга не думаючы, я схапіла са стала бутэльку і шпурнула ёю мужу ў галаву, а пасля гэтага набіла яго яшчэ па твары. Незнаёмая жанчына пачала мяне сароміць. Але мне ўжо было ўсё роўна... Ударыўшы і яе па твары, я са слязьмі на вачах прыбегла дахаты.

Неўзабаве дахаты прыйшоў муж. Ён збіў мяне так, што на целе засталіся крывавыя сінякі. Гэтага ў нас яшчэ не было.

Парай, дарагое Сэрцайка, што рабіць?

Невядомая чытачка Л. С.

**Адказ.**

Ты не мела рацыі, калі з-за найменшага поваду чаплялася да мужа. Можа, гэта прывяло яго да таго, што ён пачаў цікавіцца іншымі жанчынамі.

Пастарайся забыцца аб гэтым здарэнні і стварыць у хаце мілую, прыемную атмасферу. Не рабі мужу сцэн — будзь ласкавай з ім і з дзяцьмі. Магчыма, жыццё тваё зменіцца, і то ў лепшы бок.

**Сэрцайка.**

## Усякая ўсячына

### СРОДАК НА ВЫБЯЛЕННЕ СКУРЫ

Адзін амерыканскі лекар з'явіўся ў рэзерваце для індзейцаў і заахвяраваў ім сродак, які ператварае чырвоную скуру ў белую. Індзейцы не ацанілі належна гэтага дабрачынства. Яны выкінулі вон лекара разам з яго лекамі.

— Нас пазбавілі нашай зямлі і нашага дабра, — заявілі яны, — а цяпер хочуць яшчэ забраць ад нас тое адно, што засталося — нашу чырвоную скуру.

### СТАГАДОВЫЯ ПРАДУКТЫ

Нядаўна быў выпрабаваны ў Англіі кансерваваны пудынг, які мае ўжо 135 год. Яго забраў у палярнае падарожжа падарожнік Эдуард Пары, а знайшоў Джон Росе і старанна перахоўваў аж да гэтага часу. Выпрабаваны таксама мясныя кансервы з 1849 года. Прадукты аказаліся прыдатнымі да ўжытку.







Старая гісторыя... Новая гісторыя.

(«Аганёк»)

# ПАСМЕЙСЯ...

### ПАМІЖ СУСЕДКАМІ

Сабраліся суседкі і размаўляюць аб сваіх дзецях.

Адна кажа:

— Ведаеце, мае залаценькія, які мой Максімка разумны. Так усё разумее і разважае, як дарослы.

— Ты кажаш, што твой сын такі разумны, то чаму ён заўсёды засморканы ходзіць? — пытае адна з суседак.

— Дзіўная ты. То ж ён яшчэ малы, то і дурны, — растлумачыла тая.

### СЫН І БАЦЬКА

Бацька з сынам сядаюць абедаць. Маці падала на абед капусту. Сын узяў лыжку і пачаў есці. Капуста была тлустая і гарачая. Прабуючы, сын апёк рот і так яму забалела, што паліліся слёзы. Убачыўшы, што сын плача, бацька пытае:

— Чаго, сынку, плачаш?

— Плачу таго, што я ў вас адзін. Ні брата ні сястры не маю.

— Не плач, — сказаў бацька, — і, пацягнуўшы капусту ў рот, ледзь выгаварыў: — ты адзін у мяне, але... каб цябе і аднаго чорт забраў.

А. СЯНКЕВІЧ

### ДОМА

На табе 10 зл., — кажа жонка да мужа.

— ???

— Ты ж казаў аддаць табе рэшту з 1.000 зл.

### ПАДСЛУХАНА

— Грыша, куды ідзеш?

— На баль за скрыпача.

— А ну, рэзні што-небудзь.

— Ой, не зайграю, бо струны парваны.

### РАСТЛУМАЧЫЎ

Шафёра, які пацярпеў аварыю, спыталі:

— Чаму вы так хутка ехалі, вы ж знглі, што тармазы сапсаваны.

— Як гэта чаму, — адказвае той, — хацеў яшчэ перад катастрофай у гараж паспець.

### АДКАЗАЎ

Праваднік, які вадзіў турыстаў па горадзе, кажа:

— Тут цікавае рэха, можа ў каго ёсць рэвальвер?

— Рэвальвера няма, але ножык ёсць — адказаў яму адзін з турыстаў.

Андрэй СІДАРУК
Сакі, пош. Пасынкі
Бельскі пав.

# Ашукаўся Мікола

— Ну, што ж, свята прыбліжаецца, трэба выгнаць капельку, — думаў Мікола Швед з Вілянова ў Сямяціцкім павеце.

— Святам купяць, — вырашыў ён. — Ды і сабе спатрэбіцца.

Карацей кажучы, у галаве 19-гадовага Міколы Шведа перасоўваліся і чырвоныя соценькі, і пякучы, ап'яняючы смак самагоначкі. А трэба сказаць, што Мікола нядрэнны майстар у гэтых справах.

І ўсё было б добра. Збылося б так, як задумаў Мікола, калі б не...

Вось, вось калі б не камендант пастарунку міліцыі ў Мельніку старшы сержант Мікола Саевіч. Як на тое ліха, камендант у той дзень, калі Мікола Швед закончыў гнаць першую партыю самагонкі, узяў ды і прыехаў у Вілянова і як на тую бяду зайшоў у хату Шведа, ну і... знайшоў 3 літроўкі гатовенькай самагонкі, трубку ад халадзільніка (астыўшая самагонка шмат лепшая) і каля 30 літраў брагі. Ох і камендант, зусім папсаваў свята, ды і ў заробках перашкодзіў хлопцу. Ну што ж, давядзецца пасядзець Міколе. Ды і грошыкаў заплаціць спатрэбіцца.



На здымку: старшы сержант Мікола Саевіч з выкрытым самагоншчыкам Міколам Шведам.

Тэкст і фота В. БАРШЧЭЎСКІ

# ДАРОГІ

Здаецца, што ў кожную вёску вядзе адна дарога, але калі б мы глянулі з птушынай вышыні, то ўбачылі б цэлы лабірынт дарог, сярод якіх заблыталіся вёсачкі, як рыбкі ў сецях.

Перад кожным чалавекам таксама разыходзяцца ва ўсе бакі нябачныя дарогі. Любую з іх выбірай, ды толькі потым на сябе не наракай.

Людзі часта стаяць на раздарожжы, патыліцу скрабуць і не ведаюць, у які бок рушыць.

Прамая дарога вядзе да калектыўных гаспадарак, дзе кожны становіцца сельскагаспадарчым дзеячом. Заданне сельгаскааперацыі — як найбольш з гектара зняць, ды людзям паказаць, які прыгожы заробак атрымоўваецца.

Дарога ўлева для індывідуальнага гаспадара — рыначная дарога, з мноствам спакус. Па гэтаму шляху вязуць тайна зарэзаных бычкоў, нелегальна выпраўленую скуру і яшчэ многа іншага, да чаго рукі чэшуцца.

Дарога ўправа заводзіць у тупік, дзе шчасце вылічваецца колькасцю выпітых куфляў піва, падмацаваных «саракаградуснай». Тут нараджаюцца праекты самагоннай прыватнай індустрыі і ўзнікаюць ідэі невыканання планавых сельгаспаставак, для павелічэння індывідуальнага алкагольнага фонду.

Але вельмі хутка гэтыя справы правальваюцца, і тады заядлыя самагоншчыкі апраўдваюцца, што самагонныя апараты выкарыстоўваліся замест самавараў, для безалкагольнага чаю, а сельгаспастаўкі праваронілі з-за кароткай памяці.

Улады згаджаюцца з кароткай памяццю ў вінаватых і доўгімі рукамі да дзяржаўных інтарэсаў. За падобную грамадскую дзейнасць вызначаюць вінаватым тэрміны адпачынку за дзяржаўны кошт.

Некаторыя грамадзяне накшталт мяне рыхтуюцца ўжо да апошняй дарогі, якая вядзе да вечнага адпачынку.

Але аказваецца, і тут ёсць некалькі дарог. Ёсць напрыклад, брукаваная дарога, якая вядзе да самага Вельзевула, і асфальтавая дарога — да Пятра-ключніка.

Зразумела, кожны з нас бяжыць па асфальту і натыкаецца на кантрольны пункт, дзе рэгулюе рух сам архангел Гаўрыла з вогненным мячом.

Адсюль пешаходы зварочваюць на брукаваную дарогу, азіраюцца, бачаць, як Пётр пагражае ім грамадным ключом ад раю і, панурыўшы галаву, ідуць да чорта на кулічкі.

Дзядзька Лявон

Эдуард Валасевіч

# ДВА КАНІ

Воз угару цягнулі два кані...
Карэнны з усіх сіл, аж мылам ён пакрыўся,
Але ж ўпэўнена рабіў за крокам крок,
А Прысцяжны — ледзь варушыўся:
То муляе хамут, то лейцы рэжуць бок,
То дакучаюць авадні,
І ён хвастом адно што круціць,
То цяжкі яму воз,
То ад спякоты муціць
Або з дарогі прэцца у авёс...
Ды шчэ з Карэннага усю дарогу кпіць,
Што той не цягне, а ў аглоблях спіць!..
А побач гаспадар ішоў руплівы.
Цягнулася даўно яго рука
Да добрага дручка,
Каб лайдака прабраць з хваста да галавы,
Ды неўзабаве паказаўся двор.
У стайню коней гаспадар запёр,
Аўса уволю даўшы Каранному,
Ён Прысцяжному кінуў жмут саломы,
Прамовіўшы з дакорам:
— Так! табе і корм, які ты ў працы скоры!

# ПАПУГАЙ

Падслухаў ён разумны сказ
І паўтарае сотню раз.
Заўсёды птушка вось такая
Завецца проста — папугаем!

## На пляжы



мал. Ю. Чарапанава